Cena 60 gr. Цана 60 гр.

# Ніва

NIWA
Tygodnik Z.G. Białoruskiego
Towarzystwa Społeczno-Kulturalnego

Тыднёвік
Г.П. Беларускага
грамадска-культурнага таварыства

№ 43 (139) БЕЛАСТОК, 26 КАСТРЫЧНІКА 1958 года ГОД III

ПЯТРУСЬ БРОУКА

## КАМСАМОЛЬЦАМ БЕЛАРУСІ

Вы маці — Радзіме ўсім сэрцам адданы,
Прайшлі гераічны, праслаўлены шлях —
Сябе вы адзначылі працай стараннай
І гордым бясстрашшам у грозных баях.

Вы моцныя духам, ваш гарт бальшэвіцкі,
Вы разам з бацькамі ішлі, змагары;
Народ не забудзе, як Міша Сільніцкі
Зямлю ад навалы грудзямі прыкрыў.

У дні непагоды ў паходах суровых,
У бітвах юнацкая слава расла;
Народ не забудзе, як Рыма Шэршнёва
За край свой любімы жыццё аддала.

Народ не забудзе ніколі герояў,
Іх спраў неўміручых ў часінах цяжкіх;
Усталі з вас волаты Лаўскага бою
І смерцю сваёй ратавалі жывых.

Калі ж на прасторы прыйшла перамога
І сонечны дзень над краінай ўзыйшоў —
Мы бачым вас мужных на новых дарогах,
На ўсіх рыштаваннях вялікіх будоў.

## Беларуская вечарына ў Беластоку

У мінулую суботу — 18 кастрычніка ў Беластоку адбылася першая эстрадна - танцавальная вечарына наладжана мясцовым Аддзелам Беларускага грамадска-культурнага таварыства.

Увесь вечар падаў густы дождж. На стылёвыя сходы будынка Раёна дзяржаўных лясоў, дзе адбывалася вечарына, спешна падымаліся групы запрошаных гасцей. У эстэтычна ўдэкараванай святліцы шырыўся гоман размоў. Да пачатку вечарыны засталося некалькі мінут.

Ціхнуць размовы. На сцэне член праўлення Аддзела і кіраўнік эстраднага калектыву сябра Кастусь Сідаровіч. Коратка расказаў аб дзейнасці і планах на будучыню Беларускага Таварыства ў Беластоку. Сябра Васіль Баршчэўскі выступіў з гутаркай аб нацыянальным героі беларускага народа Кастусю Каліноўскім.

Цяпер на сцэне эстрадны калектыў. Інструментальны аркестр і салісты. Малады яшчэ гэта калектыў, і выступаў упершыню.

У выкананні аркестра пачулі мы «Беларускія кветкі», «Украінскія кветкі», «Чачотку», у апрацоўцы А. Вішэ.

Салісты - спевакі выканалі між іншым «У садочку цвітучым» Туранкова на словы Дуніна - Марцінкевіча і іншыя беларускія, рускія, украінскія, італьянскія і французскія песні.

Аркестр, салісты — Уладзімір Юрчак, Ніна Свентахоўская, Францішак Новік, акампаніятар Рая Абуховіч у вельмі кароткім тэрміне падрыхтавалі змястоўную праграму. Таму ўсім удзельнікам мастацкае часткі належацца словы падзякі.

Канцэрт закончыўся. На сцэне танцавальны аркестр. Грымнулі першыя акорды неўміручага вальса. На паркеце закруціліся першыя пары.

Да белага дня, да нядзельнай раніцы, не сціхаў вясёлы гоман моладзі. У перапынках паміж танцамі то тут, то там зацягвалі песню. Песню з сваёй роднай аколіцы. Мяккая гаворка выхадцоў з Сакольшчыны перапляталася з цвёрдай гутаркай Бельшчыны. На вечарыне было больш 300 асоб.

Арганізаванне эстрадна - танцавальных вечарын у дзейнасці Беларускага таварыства справа нямалаважная. Гэта вялікая магчымасць для прапагандысцка - масавай работы.

На маю думку, усе аддзелы БГ-КТ павінны заняцца таксама пастаянным арганізаваннем такіх вечарын — і ў горадзе, і ў вясковых раёнах. Калі, пакуль што, не маецца ўласнай эстрады, дык можна ж запрасіць свае вясковыя гурткі мастацкай самадзейнасці. Пры добрай арганізацыі вечарыны фінансавых страт напэўна не будзе. Будуць задаволены і самадзейнікі, і госці.

С. ЯНОВІЧ

## Мітынг дружбы і салідарнасці

Кузніца. Нядзельнай раніцай заехаў сюды карагод убраных транспарантамі і сцягамі аўтобусаў. З іх высыпаўся натоўп святочна адзетых гаманлівых людзей. Гэта рабочыя Беластоцкіх прадпрыемстваў прыехалі сюды, каб у сувязі з міжнародным тыднем салідарнасці працоўных, сустрэцца са сваімі братамі, працоўнымі Гродзеншчыны. Хутка фарміруецца паход і мы на дзяржаўнай граніцы. Заграніцай пачуліся гукі духавога аркестра і неўзабаве паказалася некалькісотасабовая калона рабочых Гродзеншчыны. Над ёю мора сцягоў, разнакаляровых транспарантаў і лозунгаў. Беларусы пераходзяць заараную паласу граніцы.

У кароткай прамове горача вітае іх старшыня паразумеўчай камісіі прафсаюзаў Беласточчыны Д. Карповіч. Раптам калоны закалыхаліся і парушаючы паходны парадак рушылі адны да другіх.

Пацiскі рук, шмат кветак, абдымкі, усё гэта сведчыла, што тут сустрэліся вельмі блізкія сабе людзі. Далей ужо разам, плячо ў плячо гаспадары і госці ў адным грамадным паходзе, накіроўваюцца да адмыслова пабудаванай пляцоўкі побач шасэ каля Кузніцы.

Плошча ўдэкаравана гербамі Польшчы і Беларусі, нацыянальнымі сцягамі Польшчы і Савецкага Саюза, грамаднымі партрэтамі Леніна, Гамулкі і Хрушчова. Пачынаецца мітынг. Аркестр выконвае гімны Польшчы, Беларусі і СССР. Пагранічнікі і міліцыянеры становяцца на «смірна» і салютуюць. Мітынг адкрыты. Па чарзе выступаюць з прамовамі: сакратар Гродзенскага абкома Камуністычнай партыі Беларусі Іванаў, сакратар ваяводскага камітэта ПАРП у Беластоку Лашэвіч, сакратар Цэнтральнай рады прафсаюзаў Польшчы — Вольскі, сакратар прафсаюзаў Гродзеншчыны — Чайка, работніца фабрыкі «Сяржана» — Я. Франчкоўская, работніца Гродзенскай абутковай фабрыкі — І. Смольская і інш.



*Гаспадары і госці накіроўваюцца на плошчу мітынга. На першым плане І-шы сакратар ВК ПАРП у Беластоку А. Лашэвіч і сакратар Гродзенскага абкома, Іванаў.* фота — а. а.

У выступленнях падкрэслівалася вялікая салідарнасць з працоўнымі ўсяго свету ў барацьбе за мір супроць атамнай вайны, салідарнасць з працоўнымі каланіяльных і залежных краін у барацьбе за іх нацыянальнае вызваленне. Менавіта такі характар мае і рэзалюцыя аднагалосна прынятая ўдзельнікамі мітынга.

«...Звяртаемся да ўсіх людзей добрай волі з гарачым заклікам узмацніць намаганні дзеля рэалізацыі вялікай ідэі трывалага міру ва ўсім свеце...» — між іншым гаворыцца ў прынятай рэзалюцыі.

Між прамовамі, пад гук піянерскіх фанфар на плошчу ўвайшлі піянеры Гродна. Сваёй выдатнай калектыўнай дэкламацыяй аб міры яны заваявалі прысутных. Пасля прамоў рабочыя праводзілі індывідуальныя сардэчныя гутаркі, расказвалі аб сваім жыцці і працы.

У мастацкай частцы мітынга выступілі самадзейныя калектывы з Гродна, фабрыкі «Сяржана» і Фастаўскага камбіната. Пасля мастацкай часткі адбылася супольная забава.

Калі аўтобусы з дарагімі госцьмі пераехалі граніцу і ад'язджалі ў напрамку Гродна, услед ім доўга махалі рукамі польскія сябры.

В. БАРШЧЭЎСКІ



*Выступае рабочая Гродзенскай абутковай фабрыкі — І. Смольская.* фота — а. а.

## Беластоцкі беларускі народны калектыў песні і танца наведаў Гродна

18 і 19 кастрычніка Беластоцкі беларускі калектыў песні і танца пабываў у Гродна, дзе даў два канцэрты.

Шырэй аб паездцы нашага калектыву напішам у наступным нумары.



*На мітынгу ў Кузніцы.* фота — а. а.

